№4 (1567)
Пятніца, 10 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі невялікі снег, слабыя мяцеліца і галалёд, на дарогах месцамі галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні з пераходам на паўночны, 3—8 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Гродне — -6...-8, Магілёве — -7...-9, Мінску, Гомелі — -8...-10, Брэсце — -9...-11.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е. 11-га на поўдні невялікі снег, па паўночнай палавіне — снег, месцамі мяцеліца. Вецер паўночна-заходні і заходні, 5—10 м/с. 12-га па поўначы парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы -20...-25, пры праясненнях да -30, удзень 11-га -16...-21, 12-га -8...-13.



ПУЛЬС

## Беражыцеся маразоў

За першыя сем дзён 2003 года ад маразоў у Мінску пацярпелі 46 чалавек. З дыягназам "пераахалоджанне" ў бальніцы горада было дастаўлена 22, а з абмаражэннем канечнасцей — 24 чалавекі.

Сёлета ўзімку больш сталі абслугоўваць хворых з абмаражэннямі і пераахалоджаннем. Так, калі ў 2001 годзе брыгады "хуткіх" выехалі да 203 пацярпелых ад холаду і марозу, то ў 2002 годзе — да 260. Толькі на працягу снежня з вуліц Мінска 114 чалавек былі дастаўлены ў бальніцы з пераахалоджаннем і 58 з абмаражэннямі. Акрамя таго, 280 чалавек былі знойдзены на вуліцы, большасць з іх знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Аварыі ў сістэме водазабеспячэння

Моцны мароз, што ўстанавіўся ў Беларусі, прынёс шмат праблем камунальным службам. З пачатку года зафіксавана 10 аварый: у асноўным з-за марозу рваліся трубы халоднага водазабеспячэння.

Зараз адсутнічае цеплазабеспячэнне ў двух дзіцячых садках Любанскага раёна Мінскай вобласці. З-за аварыі ў сістэме водазабеспячэння адсутнічае цяпло ў дзіцячым садку пасёлка Сосны. З-за выхаду з эксплуатацыі электрарухавіка насоса кацельнай змерзлі трубы ацяплення ў дзіцячым садку вёскі Загалле.

Для ліквідацыі наступстваў аварый прыцягнуты камунальныя службы, працуюць абласная і раённая камісіі па надзвычайных сітуацыях.

Без цеплазабеспячэння таксама застаўся будынак інтэрната ў вёсцы Загалле. Тым не менш ваду ў сістэме ацяплення паспелі зліць, дзякуючы чаму дарагой замены абсталявання ўдалося пазбегнуць. У пакоях 46 жыльцоў інтэрната часова ўстаноўлены электраабагравальнікі, якія падтрымліваюць адносна цёплую тэмпературу ў памяшканнях.

**БелаПАН.**

## Беларусь уваходзіць у лік краін з найменшай працягласцю жыцця

Савет Еўропы абнародаваў у Страсбургу асноўныя звесткі штогадовай дэмаграфічнай справаздачы па 44 краінах — членах арганізацыі за перыяд з 1 студзеня 2001 па 1 студзеня 2002 года, у якую таксама ўключаны Югаславія і Беларусь.

Беларусь уваходзіць у тройку краін з найменшай працягласцю жыцця. Найменшая працягласць жыцця мужчынскага насельніцтва ў Расіі (59 гадоў), Беларусі (62,8 года) і Украіне (63 гады); найбольшая — у Ісландыі (78 гадоў) і Швецыі (77,6 года).

**Ганна МУРАЎСКАЯ.**

## З падаткамі на шыі

Змрочна-іранічны настрой панаваў у канферэнц-зале Віцебскага аблвыканкама, дзе днямі адбыўся семінар па праблемах падаткаў. Арганізатар семінара — Абласны саюз наймальнікаў — запрасіў на сход бухгалтараў розных прадпрыемстваў. Прысутныя, як ніхто іншы, ведаюць, да якога стану давялі айчынную прамысловасць непасільныя падаткі. Гэтыя падаткі, скардзіліся бухгалтары, не скарачаюцца, а, наадварот, усё растуць, мацуючы пятлю на горле беларускай індустрыі. А што ў перспектыве?

Нічога аптымістычнага не змог адказаць на гэтае пытанне госць са сталіцы — намеснік дырэктара Дэпартамента Нацбанка Мікалай Левянкоў. Ён сумленна прызнаў, што падатковы цяжар на прадпрыемствы нашай краіны з'яўляецца беспрэцэдэнтным для краін з эканомікай, што патрабуе рэфармавання.

Падатковая нагрузка ў Беларусі перавышае 43%, хоць у большасці іншых краін з пераходнай эканомікай падаткі ўтрая меншыя, і гэта з'яўляецца стымулам росту эфектыўнасці прамысловай сферы гаспадаркі. Мяркуючы па ўсім, паслабленне падатковай пятлі ў наступным годзе чакаць не варта. А значыць, не варта спадзявацца на паляпшэнне становішча ў прамысловасці, умацаванне бюджэту і г.д.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Новы тарыф на тэлефонную даведку

10 студзеня РА "Белтэлекам" уводзіць у дзеянне адзіны рэспубліканскі тарыф на паслугі сваіх даведачна-інфармацыйных службаў. Кошт адной даведкі аб нумары тэлефона абанента складзе 70 рублёў.

Бясплатна прадастаўляецца інфармацыя аб нумарах тэлефонаў экстраных службаў (пажарнай, міліцыі, хуткай дапамогі, газгазу), аварыйных (гаржылупраўлення, электрасеткі, водаканала, цепласеткі, ліфтоў, тэлефоннай сеткі), даведачных (аўтавакзала, чыгуначнага вакзала, аэрапорта, кодаў гарадоў АМТС, прыёму тэлеграм, разлікаў за паслугі сувязі, аптэк, псіхалагічнай дапамогі), медыцынскіх установ.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

# Профессор Бандажевский придумал в тюрьме Систему выживания человека

**9 января Юрию Бандажевскому, известному ученому в области радиационной медицины, доктору, профессору, бывшему ректору Гомельского медицинского института, члену нескольких академий, исполнилось 46 лет. Свой день рождения он отметил не в кругу семьи и коллег, а среди заключенных в Кальварийской тюрьме. Несмотря на просьбы международной общественности освободить ученого или хотя бы предоставить ему возможность проводить научные исследования, Бандажевский продолжает отбывать 8-летний тюремный срок. Он был арестован и осужден якобы за взятки.**

В 1980 году Юрий Бандажевский окончил Гродненский медицинский институт и получил направление в клиническую ординатуру по специальности патологическая анатомия. За два года подготовил кандидатскую диссертацию о влиянии различных факторов на потомство крыс. На основе этих исследований Минздрав СССР запретил назначение тиамина беременным женщинам, поскольку этот препарат вызывал пороки и уродства у потомства.

В квартире родителей, в одной из комнат Бандажевский держал сотни хомячков, над которыми ставил эксперименты. Вся комната была заставлена ванночками, в которых было по 20—25 хомячков. Запах в квартире стоял ужасный. Но другого выхода не было: в ординатуре никому не дают отдельную лабораторию. Все домашние помогали ему. Кормили хомячков: на завтрак давали листья одуванчиков, на обед — творог, на ужин — хлеб или зерно.

30 декабря 2002 года. Из письма Бандажевского родным: *"Дорогие, родные мои! Посылаю вам систему выживания человека. Эта брошюра составлена мной для оказания помощи людям, попавшим в экстремальные условия, связанные с лишением свободы. Так же, как и они, я подвергся испытанию неволей. Много пережив и передумав, я понял, что жизнь человека всецело принадлежит Богу. Только вера в него позволяет спасти душу и тело от разрушения. По его воле я и создал этот труд".*

1983 год. Юрий Бандажевский — младший научный сотрудник Центральной научно-исследовательской лаборатории при Гродненском мединституте. За три года пишет докторскую диссертацию, которую защитил в Каунасе в 1988 году. Он был самым молодым доктором наук в СССР

30 декабря 2002 года. Из письма Бандажевского родным: *"Люди, попавшие в беду, арестованные, заключенные в тюрьму, испытывают колоссальный стресс. Это состояние необычайного напряжения затрагивает все системы. Человек сразу начинает испытывать энергетический голод, даже если будет потреблять пищу. Наиболее чувствительны к нехватке клетки жизненно важных органов — головного мозга, сердца, печени, почек, эндокринной системы".*

1991 год. Бандажевскому присвоено звание профессора. Он самый молодой профессор медицины в Союзе. Ему предлагают создать медицинский вуз в Гомеле. После чернобыльской аварии Гомельская и Могилевская области испытывали огромную потребность в медицинских кадрах. Уехало много врачей-евреев. Он начинал с пустого места. Нашел здание административного корпуса. Подобрал кадры. За год работы не только укомплектовал преподавателями вуз, но и набрал на все курсы студентов. В 1992 году состоялся первый выпуск.

30 декабря 2002 года. Из письма Бандажевского родным: *"Метод энергетической подпитки мозга позволяет управлять потоками энергии в организме. Он включает в себя ряд специальных поз, которые устраняют застойные зоны и определенные чередования напряжений и расслаблений расположенной в нижней области таза мышцы, играющей роль "генератора энергии".*

1999 год. Бандажевский выпустил 1000-го врача для Гомельской и Могилевской областей. В Минздраве отметили, что снята проблема врачебных кадров для этого региона. С 1990-го по 1999 год им было подготовлено 26 кандидатов наук.

30 декабря 2002 года. Из письма Бандажевского родным: *"Экстремальные состояния обязывают человека искать выход. Для этого необходимо определить свое отношение к окружающему тебя миру, наметить конкретные цели в жизни, а также способы их достижения. В моменты крайнего психического напряжения это не всегда можно осуществить без надлежащей психологической подготовки. Считаю своим нравственным долгом познакомить нуждающихся в такого рода поддержке лиц с целью их выживания не только физически, но и духовно. Прежде всего необходимо победить страх. Чувство страха возникает практически у каждого человека, впервые столкнувшегося с ситуацией лишения свободы. От него нельзя просто так избавиться".*

2001 год. Вышла книга Бандажевского "Радиоцезий и сердце". В следующем году была издана книга "Патологические процессы в организме при инкорпорации радионуклидов". С этим материалом он выступал в "парламенте" и говорил, что нации грозит вырождение, если не предпринять необходимые меры. За эти разработки он был награжден медалью и Золотой звездой Альберта Швейцера. Французская организация "Врачи против атомной войны" наградили его медалью Гиппократа.

Из восьми лет приговора Бандажевский отсидел два. Он страдает, что не может работать, проводить исследования, общаться с коллегами. Вспоминает о том времени, когда держал хомячков, кормил их одуванчиками, ставил над ними эксперименты и избавлял беременных женщин от приема вредных препаратов.

**Людмила ГРЯЗНОВА, Хартия'97, координатор по правам человека.**

**На снимке:** *Ю.Бандажевский и его жена Галина перед началом судебного заседания. Гомель, 18 июня 2001 г.*

**Фото IREX/ProMedia.**

РЭХА

## Які чорт дэпартаваў Барыса Нямцова?

**Варты ўсмешкі працяг атрымаў мінулагодні скандал з дэпартацыяй з Беларусі Барыса Нямцова. Суд Цэнтральнага раёна Мінска днямі адмовіў лідэру фракцыі СПС Дзярждумы Расіі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па скарзе на "неправамернае рашэнне" аб яго дэпартацыі за межы Беларусі 23 кастрычніка. Высвятляецца, што нікога наогул нікуды не дэпартавалі.**

У пісьмовай адмове сп. Нямцову за подпісам старшыні суда Цэнтральнага раёна Мінска Пятра Кіркоўскага гаворыцца, што з заявы Нямцова аб неправамернасці яго дэпартацыі вынікае, што ... *"рашэнне аб дэпартацыі не прымалася".*

Акрамя таго, суд вырашыў, што праверка тых парушэнняў, на якія спасылаецца ў сваёй скарзе заяўнік, згодна з артыкулам 27 закона "Аб органах дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь", тычыцца кампетэнцыі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і падначаленых яму пракурораў. У выніку суд пастанавіў, што "скарга не падлягае разгляду ў судах з прычыны яе нападведамаснасці", і ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіў.

На думку юрыста Яўгена Лабановіча, які прадстаўляе інтарэсы Барыса Нямцова ў Беларусі, "суддзя Кіркоўскі вызначыў факт адсутнасці рашэння аб дэпартацыі Нямцова", і, згодна з адказам суддзі, "ніхто такога рашэння не прымаў і Нямцова ніхто нікуды не выдвараў". "Тым самым старшыня раённага суда ўскосна даў зразумець, што дзеянні супрацоўнікаў КДБ з'явіліся па сутнасці свавольствам", — лічыць сп. Лабановіч.

Дык хто мае права, у рэшце рэшт, наведваць гасцінную беларускую зямлю? У каго наш госць павінен пытаць дазволу на свой візіт? Калі расійскі палітык не падабаецца ўладам, нейкі нябачны чорт гучна выдварае яго з нашай тэрыторыі. Але потым высвятляецца, што ніякага чорта наогул не існуе, альбо нам усё здалося. Цьфу, цьфу, цьфу!..

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА?..

## Кадравая палітыка па-далгалёўску

*Неяк да рэдактара раённай газеты "Кобрынскі веснік" Аркадзя Астаповіча зайшла маладая жанчына — журналістка, якая прыехала аднекуль з Расіі. Яна прасіла прыняць яе на работу ў рэдакцыю.*

— А вы ведаеце беларускую мову? — задаў рэдактар першае і галоўнае пытанне. — Вы зможаце пісаць па-беларуску?

— Нет, я не знаю вашей "мовы", — адказала наведвальніца.

— Тады мы не зможам дамовіцца, — прама сказаў рэдактар. — Наша ж газета выдаецца на беларускай мове. Прабачце...

Мінуў нейкі час.

Рэдактар Аркадзь Астаповіч адправіўся на пенсію.

Ведаеце, каго паставілі новым рэдактарам "Кобрынскага весніка"?

Вы ўжо здагадаліся. Прызначылі рэдактарам менавіта яе — тую самую журналістку аднекуль з Расіі.

Калі былы рэдактар Астаповіч прапанаваў свае паслугі ў якасці радавога журналіста, то новая "хозяйка положения" заявіла яму:

— Когда-то вы не взяли меня на работу. Теперь я вас не возьму.

На тым і разышліся.

Гэта лакальная сітуацыя — найлепшае сведчанне адсутнасці ў брэсцкіх наменклатурных беларусаў здаровага розуму, нацыянальнай годнасці і гонару. Без усведамлення такіх катэгорый няма грамадзяніна.

Няўжо ва ўсёй Брэсцкай вобласці не знайшлося журналіста, які б мог рэдагаваць беларускамоўную газету "Кобрынскі веснік"?

Як кажуць у Расіі, "маразм крепчал"...

Вы можаце ўявіць віртуальную сітуацыю, каб нейкі журналіст-беларус прыехаў, напрыклад, у Грузію і сказаў: "Я не ведаю вашай грузінскай мовы, але я хачу быць рэдактарам вашай грузінскай газеты". Што б яму адказалі там?

Вы можаце ўявіць такі дыялог журналіста-беларуса ў Арменіі, Азербайджане, Узбекістане, Польшчы, Бурундзі, Ізраілі, Маўрытаніі, Францыі, Кітаі, Барбадосе, Італіі, Манголіі? І гэтак далей...

Так могуць размаўляць з намі толькі ў нас — у Беларусі. Таму што мы самі гэта дазваляем.

Напісаць дыктоўку па-беларуску чалавек не зможа.

А рэдагаваць беларускамоўную газету — без праблем?

Рэдактарам беларускамоўнага выдання прызначаецца асоба, якая прафесійна не валодае беларускай мовай.

Такое магчыма, відаць, толькі ў Беларусі.

Слухайце, грамадзяне, уважліва брэсцкіх начальнікаў.

Слухайце, як яны будуць паўтараць бясконца, сотні раз: "Галоўнае пры вырашэнні кадравых пытанняў — прафесіяналізм людзей".

Слухайце, як яны правільна гавораць.

І глядзіце, што яны робяць на самай справе.

"Мовы вашей не знаю, а "рулить" вами хочу". Адкуль яны бяруцца, такія "кадры"?

Адтуль — у выніку бяздарнага кіраўніцтва гэтых далгалёвых.

Мы не называем тут нават прозвішча кобрынскай рэдактаркі.

Рамова тут пра другое.

Калі мы не паважаем самі сябе, то хто ж іншы нас паважаць будзе?

**Рыгор ПАШКЕВІЧ.**

Выканаўчае Бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) выказвае шчырае спачуванне дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **Валерыю Дзмітрыевічу ФРАЛОВУ** ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі.

ПОСТУПОК

## «Химик» Можейко платить судьям и прокурорам не намерен

1 января у осужденного журналиста Павла Можейко был своего рода юбилей: истекла треть срока осуждения. Событие это пришлось на период действия амнистии, в соответствии с которой осужденные, отбывшие 1/3 срока, освобождаются от наказания. Но на Павла Ивановича это не распространяется, поскольку законодатели установили данную норму только для той категории осужденных, у которых истечение указанного срока пришлось на день вступления в силу закона об амнистии.

По мнению белорусских правозащитников, это несправедливо: данную норму следует распространять и на тех осужденных, истечение 1/3 срока у которых приходится на время действия амнистии (а это целых полгода!).

Однако и для Павла Можейко есть норма закона, позволяющая несколько облегчить его участь. Она изложена в статье 120 УК, согласно пункту 1 части 3 которой еще месяц назад неотбытая часть наказания могла быть заменена более мягким наказанием. Применительно к нашему коллеге это — исправительные работы по месту жительства (т.е. в Гродно) с удержанием из заработка от 10 до 25 процентов в доход государства.

Претензий к "химику" Можейко у администрации Жлобинского ИУОТ не имеется, и она предложила осужденному журналисту воспользоваться данной нормой закона. Но, как стало известно, Павел Иванович отказался. Как пояснил наш коллега "Народной воле", он не намерен оплачивать работу судей и прокуроров, неправомерно, по его (и нашему тоже) мнению, закрывших газету "Пагоня" и осудивших журналистов.

Однако в отношении Павла Можейко администрация исправительного учреждения может применить и пункт 1 части 3 статьи 119 УК об условно-досрочном освобождении от наказания (УДО). Более того, согласно пункту 9 статьи 187 Уголовно-исполнительного кодекса, администрация сделать это обязана.

Согласится ли журналист Можейко на УДО?

**Валерий ЩУКИН.**
**Фото IREX/ProMedia.**

ЗЕРКАЛО

*В декабре 2002 года НИСЭПИ провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом "face to face" опрошено 1478 респондентов, ошибка репрезентативности не превышает 0,03). Предлагаем читателям результаты ответов на вопросы, касающиеся жизни в России и Беларуси.*

## Белорусы думают, что в России живется лучше

Как показывают результаты опроса, значительное большинство взрослого населения нашей страны уверено, что в отношении демократических преобразований наши восточные соседи добились более значительных результатов. В частности, об этом свидетельствуют данные табл. 1.

**Таблица 1. Распределение ответов на вопрос "После распада СССР лидеры большинства бывших советских республик обязались строить демократические государства и гражданские общества. На Ваш взгляд, какая страна — Беларусь или Россия — добились большего прогресса в этом направлении?"**

| Вариант ответа* | % |
|---|---|
| *Россия* | 56,4 |
| *Беларусь* | 16,4 |

* *Здесь и далее позиции "Затруднился ответить" и "Нет ответа" исключены.*

Об этом же говорят данные табл. 2. Как можно заметить, во всех случаях более половины белорусов считают, что у нас буквально во всех сферах общественной жизни, определяющих демократичность общества, гораздо больше нерешенных проблем, чем в России. Причем там, где у нас проблемы наиболее существенны, в России они, наоборот, менее значимы.

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос о том, где все еще больше нерешенных проблем, в Беларуси или в России, %**

| Вариант ответа | Беларусь | Россия |
|---|---|---|
| *Со свободой средств массовой информации* | 71,0 | 20,6 |
| *Со свободными и справедливыми выборами* | 66,8 | 25,3 |
| *С соблюдением прав человека* | 65,7 | 26,2 |
| *С независимостью судебной власти* | 63,6 | 28,2 |
| *С разделением полномочий между законодательной, исполнительной и судебной властями* | 61,6 | 29,3 |
| *С дискриминацией граждан по политическим, религиозным и др. основаниям* | 51,5 | 36,9 |

По мнению 44% белорусов, в России населению сегодня вообще живется лучше, чем в Беларуси. Противоположной точки зрения придерживается только 35,1% опрошенных.

**НИСЭПИ.**

ТРАГЕДЫЯ

# Падпоркі пад Нясвіжскі замак

***У ноч на каталіцкія Каляды гарэў цэнтральны будынак аднаго з самых старажытных помнікаў Беларусі — Нясвіжскага замка Радзівілаў. Урон ад пажару вылічаецца сотнямі тысяч доляраў. Беларускі ўрад заяўляе сёння, што ўжо да канца гэтага года наступствы пажару будуць ліквідаваны і ў планах рэстаўрацыі замка не адбудзецца змяненняў. Да канца 2003 года скончыцца першы этап рэстаўрацыі — архітэктурныя работы, а ў 2006 годзе палац будзе цалкам адрэстаўрыраваны.***

***Трэба было адбыцца трагедыі, каб нашы ўлады нарэшце звярнулі сваю ўвагу на Радзівілаўскі маёнтак. Вось ужо сапраўды: гром не грымне — мужык не перахрысціцца.***



Кіраўніцтва Міністэрства па надзвычайных сітуацыях афіцыйна заявіла, што адна з галоўных прычын трагедыі — нядбайнасць будаўнікоў, якія праводзілі ў замку рэстаўрацыйныя работы. Па факце пажару ўзбуджана крымінальная справа, ідзе следства. Аднак невядома, ці будзе хто-небудзь трымаць персанальны адказ за тое, што здарылася ў Радзівілаўскім палацы ў ноч на Каляды.

З аднаго боку, ёсць два чалавекі, слесар і электрык, якія днём 24 снежня адагравалі пашыральны бак сістэмы воднага ацяплення паяльнай лямпай без адпаведнага пісьмовага распараджэння і выканання норм бяспекі. Нечакана пажаранебяспечны ўцяпляльнік гэтага бака загарэўся. На месца ўзгарання рабочыя вылілі пяць вядзёр вады, зачынілі пакой і ў 15.40 пайшлі дамоў рыхтавацца да свята. Некалькі гадзін месца ўзгарання тлела, але ў палацы ў гэты час нікога не было. Бліжэй да вечара вартаўнік замка Уладзімір Жураўскі ўбачыў полымя над цэнтральным будынкам замка і адразу патэлефанаваў у пажарную службу і кіраўніцтву гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж".

З другога боку, ёсць кіраўніцтва палацава-паркавага ансамбля, якому яшчэ ў сакавіку Міністэрства па надзвычайных сітуацыях выставіла 37 пунктаў парушэння тэхнікі пажарнай бяспекі, якія неабходна было выправіць. Адзін з пунктаў спіса якраз і забараняў карыстацца адкрытым полымем і электранагравальнымі прыборамі ў будынках замка. Акрамя таго, драўляныя канструкцыі пакрыцця даху абавязкова патрабавалася апрацаваць вогнезасцерагальным саставам. Але да злашчаснага дня 24 снежня гэтыя прадпісанні так і не былі выкананы.

Намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях **Энвер Барыеў** адзначыў: *"Работы праводзіліся без афармлення нарада допуску, як таго патрабуюць нормы і правілы пажарнай бяспекі, без адпаведнага інструктажу і прыняцця неабходных мер супрацьпажарнай бяспекі. Тут ёсць прамая адказнасць тых, хто праводзіў гэтыя работы, і тых кіраўнікоў, якія вінаваты ў тым, што такі парадак на аб'екце не быў створаны".*

А якую адказнасць панясе дзяржава, пад аховаю якой, як напісана на шыльдзе замка, знаходзіцца Нясвіжскі замак Радзівілаў? Застанецца невінаватай? Хуценька паставіць "падпоркі" пад замак і абвесціць, якія грандыёзныя планы і намеры яна мае адносна яго рэстаўрацыі?

4 студзеня вялікая ўрадавая камісія на чале з віцэ-прэм'ерам краіны Уладзімірам Дражыным выязджала на месца трагедыі, каб, як было аб'яўлена, разабрацца ў яе прычынах і вырашыць, як за кароткі час ліквідаваць наступствы пажару. Адразу пасля навагодніх святаў міністр культуры Леанід Гуляка заявіў, што рэстаўрацыйныя работы ў замку будзе весці брыгада высокапрафесійных будаўнікоў з Салігорска...

Чаму менавіта цяпер заварушыліся чыноўнікі? Я памятаю ліпень 2002 года. Тады я прыязджала ў Нясвіж, каб паглядзець, як ідзе рэстаўрацыя замка Радзівілаў, распачатая два гады таму. Убачанае мяне ўзрушыла.

Некалькі рабочых млява капалі яму каля цэнтральнай уязной брамы замка, а к вечару на аб'екце ўвогуле нікога не было. Супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, археолаг Аляксандр Мяцельскі, які кіраваў археалагічнымі раскопкамі, скардзіўся, што на ўласную працу яму амаль не застаецца часу, прыходзіцца "пасвіць" рабочых, каб тыя не напіліся, каб усё выканалі так, як патрабуецца. Я здзівілася, што на рэстаўрацыі такога славутага гістарычнага месца працуюць не прафесіяналы. Аляксандр Мяцельскі растлумачыў чаму: "А хто сюды пойдзе? Грошы плацяць малыя і са спазненнем. У 2001 годзе работы скончыліся 1 кастрычніка, а грошы будаўнікі атрымалі толькі ў красавіку 2002 года".

Мізэрнае фінансаванне не дазваляла праводзіць элементарныя работы. Ад былых гаспадароў гістарычнага месца — санаторыя, які належаў Белмежкамгасздраўніцы і месціўся ў радзівілаўскіх пакоях з 50-х гадоў XX стагоддзя, — засталіся трэшчыны ў сценах і падмурку, дах, які працякаў, састарэлыя сістэмы вода- і электразабеспячэння. За ўвесь той час, што замак служыў санаторыем, яго ні разу ўсур'ёз не рамантавалі. Апошні капітальны рамонт радзівілаўскіх пакояў праводзіўся ажно ў 1875 годзе! Супрацоўнікі музея-запаведніка "Нясвіж" з жахам чакалі зімы. Казалі, што пры такім становішчы аднаўлены замак беларусы змогуць убычыць у лепшым выпадку толькі праз 10—15 гадоў.

9 жніўня 2002 года Нясвіжскі замак наведалі старшыня Дзяржаўнага кантролю краіны Анатоль Тозік і віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын. Справа, здавалася б, скранулася з месца. У лістападзе мінулага года Савет міністраў выдаў пастанову "Аб некаторых мерах па рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы". Быў створаны ўрадавы штаб, які ўзначаліў Уладзімір Дражын. Тады ж быў абвешчаны тэрмін здачы аб'екта: рэстаўрацыя старажытнага замка павінна скончыцца да 2006 года. Усе фінансавыя пытанні дзяржава абяцала вырашаць у тэрмін. Пры дырэкцыі замка адкрылі два дабрачынныя рахункі: у беларускіх рублях і валюце. У замак падалі паліва, што, на думку спецыялістаў, дапаможа захаваць яго ад разбурэнняў.

Нядаўна Леанід Гуляка нагадаў, што на аднаўленчыя работы і поўную рэстаўрацыю замка спатрэбіцца 65 мільярдаў беларускіх рублёў. У бюджэце 2003 года на рэстаўрацыю замка закладзена лічба ў 1 мільярд. Гуляка спадзяецца, што пажар унясе пэўныя карэктывы ў размеркаванне грошай. Хацелася б верыць, але...

Спецыялісты, якія займаліся праблемамі замка, яго гісторыяй, выказваюць сумненні, што цяперашняя ўлада выканае свае абяцанні. У першыя дні пасля пажару старшыня Беларускага фонду культуры **Уладзімір Гілеп** рэзка выказаўся наконт трагедыі ў Нясвіжскім замку Радзівілаў. Ён заявіў, што гэта не надзвычайнае здарэнне, а вынік дзяржаўнай абыякавасці да гістарычных каштоўнасцяў краіны.

Аўтар шматлікіх кніг пра Нясвіж і Радзівілаў **Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая**, якая жыве ў Нясвіжы і кожны дзень наведвае гістарычны помнік, кажа, што пасля ўсіх восеньскіх урадавых пастаноў і рашэнняў справа з месца не скранулася. Тое, што было прыгожа запісана на паперы, на самай справе не выконвалася.

*"У замку працавалі адны п'янтосы,* — кажа Клаўдзія Якаўлеўна. — *На працу ў запаведнік ішлі, хто хацеў. Ніхто не глядзеў, падыходзіць чалавек ці не. Набралі чалавек 50. Я ніколі не бачыла, каб гэтыя людзі перажывалі за замак, за сваю працу. Такая дзікая абыякавасць!*

*Рабочыя ўсё лета гулялі, не рабілі тое, што трэба. Ацяпленне не праверылі, не вызначылі, як і дзе яно будзе працаваць. Таму гэтая сістэма і замерзла на гарышчы цэнтральнага будынка. Тады будаўнікі насуперак усім патрабаванням вырашылі яе адагрэць паяльнай лампай. А вакол было шмат друзу, які добра гарэў...*

*Я ўвесь час думала, што павінна нешта здарыцца. Хадзіла ў райвыканкам, скардзілася, гаварыла, што трэба нешта рабіць. Але да мяне не прыслухоўваліся..."*

***

Сёння яшчэ дакладна не падлічаны ўрон, які нанёс пажар старажытнаму будынку, нашай гісторыі. Спецыялісты кажуць, што ўсе мастацкія каштоўнасці, якія намоклі падчас тушэння пажару, пакуль захаваны. Але і ляпніна, і паркетная падлога XVIII стагоддзя, і унікальная карціна "Багіня Леда і шэсць амураў", якая з'явілася ў замку яшчэ ў часы Станіслава Радзівіла (Пані Каханку) і размяшчалася на столі пад парадная лесвіцай, сур'ёзна пашкоджаны вадою. Усяго падчас пажару згарэла каля 600 квадратных метраў даху і гарышча, што складае 16% ад агульнай плошчы ўсяго палаца. Па словах Энвера Барыева, толькі зладжаныя і правільныя дзеянні пажарных абаранілі замак ад наступстваў агню.

Зараз усе намаганні спецыялістаў накіраваны на аднаўленне даху і перакрыцця галоўнага корпуса замка і яго паўднёвай галерэі. Ужо ў хуткім часе драўляныя канструкцыі заменяць на металічныя. Навуковы кіраўнік праекта рэстаўрацыі замка **Сяргей Друшчыц** кажа: "*Тое, што здарылася, трагедыя. Але ніякіх прынцыповых змен у работу пажар не ўнясе. Безумоўна, усе перакрыцці, дах, страпільная сістэма, якія крануў пажар, павінны поўнасцю быць заменены. Так, там ёсць унікальныя канструкцыі, але, на жаль, іх фізічная зношанасць складае 100 працэнтаў".*

Сёння ў Нясвіжы працуе камісія Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Міністэрства культуры, спецыялісты Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, вучоныя-гісторыкі...

Заўважаецца цікавая заканамернасць: палац гарэў менавіта тады, калі на афіцыйным узроўні беспярэпынна гаварылі аб тым, як улада імкнецца захаваць нацыянальны помнік, адрадзіць адну з галоўных гістарычных каштоўнасцяў Беларусі, якія вялізныя сродкі плануецца выдаткаваць на рэстаўрацыю. А замак нібыта працівіўся гэтай хлусні і абыякавасці з боку дзяржавы і такім жахлівым чынам патрабаваў звярнуць на яго ўвагу...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

КОЛОНКА ЮРИСТА

**Автор рубрики**
**Олег ВОЛЧЕК**
**ждет ваших вопросов**

## Можно ли выселить бывшую жену?

*После освобождения из мест лишения свободы я хочу прописаться в свою государственную квартиру. Могу ли я выселить свою бывшую жену с ребенком?*

***И.В.Войнилович,***
***Витебская область***

В соответствии со стст. 29, 30 ЖК РБ к членам семьи нанимателя, собственника жилого помещения, члена организации граждан-застройщиков относятся его супруг (супруга), их дети и родители.

Если члены семьи нанимателя перестали быть членами его семьи, но продолжают проживать в этом же жилом помещении, они сохраняют свои права и обязанности, если иное не установлено настоящим Кодексом и заключенным между ними письменным соглашением о порядке пользования жилым помещением.

В данном случае Вам необходимо подать исковое заявление в суд о порядке пользования жилым помещением и в данном заявлении указать, чтобы за Вами признали изолированную комнату. Вы не сможете выселить Вашу бывшую жену с ребенком: она является членом семьи нанимателя, и ей по законодательству полагается жилплощадь в данном жилом помещении.

## Автомобиль инвалида. Умершего

*Каков порядок передачи автомобиля, оставшегося после смерти инвалида?*

***Г.М.Лесун, г.Березино.***

В соответствии с Постановлением Советов Министров Республики Беларусь от 22.06.1998 г. "О внесении изменений и дополнений в положение о порядке обеспечения инвалидов транспортными средствами и компенсации расходов на их транспортное обслуживание" в случае смерти инвалида полученный им бесплатно автомобиль "Запорожец" с ручным управлением (мотоколяска) остается в собственности членов его семьи, с которыми он проживал совместно, и снимается с учета органов социальной защиты.

В случае смерти инвалида полученный им бесплатно автомобиль "Таврия" или "Ока" в течение 45 дней предлагается для продажи членам его семьи, с которыми он проживал совместно, по льготной стоимости (50 процентов установленной стоимости автомобиля с учетом износа, определенного экспертом комиссионного автомагазина).

До решения вопроса о приобретении членами семьи автомобиля по льготной стоимости комиссия районного, городского исполнительного и распорядительного органа в двухнедельный срок после смерти инвалида составляет акт технического состояния автомобиля и решает вопрос о его дальнейшем местонахождении:

* по акту и заявлению оставляется членам семьи на ответственное хранение;

* изымается для хранения на стоянках (площадках), определяемых районным, городским исполнительным и распорядительным органом.

Расходы при этом производятся за счет средств местного бюджета.

Разрешение на оставление (льготную продажу) автомобиля (мотоколяски) в собственности членов семьи выдается управлением социальной защиты облисполкома (Минского горисполкома) по прежнему месту жительства умершего инвалида.

Определение члена семьи, на которого оформляется автомобиль (мотоколяска), из числа лиц, составляющих ко дню смерти инвалида одну семью, производится по совместному заявлению этих лиц. Споры об определении члена семьи, на которого оформляется автомобиль (мотоколяска), разрешаются в судебном порядке по иску любого члена семьи.

Для получения разрешения на оставление (льготную продажу) автомобиля (мотоколяски) в собственность семьи умершего инвалида необходимо представить в органы социальной защиты следующие документы:

* заявление члена семьи (при наличии нескольких членов — их совместное заявление);

* копию свидетельства о смерти инвалида, заверенную нотариально или заведующим районным, городским отделом социальной защиты;

* справку домоуправления или поселкового, сельского Совета депутатов о составе семьи умершего к моменту его смерти;

* копии документов, подтверждающих родственные отношения с умершим, заверенные нотариально или заведующим районным, городским отделом социальной защиты.

Органы ГАИ на основании разрешения органов социальной защиты производят перерегистрацию автомобиля (мотоколяски) на одного из членов семьи умершего инвалида.

Оформленный на имя одного из членов семьи автомобиль (мотоколяска) является общей долевой собственностью всей семьи и снимается с учета органов социальной защиты.

Споры о доле в общей собственности разрешаются в судебном порядке по иску любого члена семьи.

Для продажи автомобиля (мотоколяски), оставленного в собственности членов семьи умершего инвалида, разрешение органов социальной защиты не требуется.

При отсутствии совместно проживающих членов семьи у умершего инвалида полученный им бесплатно автомобиль (мотоколяска) изымается органами социальной защиты для реализации в установленном порядке.

КРИК ДУШИ

## Радоваться, что другим еще хуже?

Уважаемая редакция!

Обращаются к Вам учителя СШ №2 курортного поселка Нарочь. Нам бы хотелось привести пример, исходя из которого можно судить о моральных качествах отдельных наших руководителей.

Учителя нашей школы получают заработную плату с задержкой на месяц. Так, например, за октябрь нам ее перечислили в последний день ноября. И так на протяжении нескольких месяцев. Педагогический коллектив школы обратился в Мядельский райисполком с просьбой решить этот вопрос и выплачивать заработную плату два раза в месяц, как это и положено по закону. Никаких противозаконных требований мы не выдвигали.

20 декабря в Мяделе состоялась сессия районного Совета депутатов. После ее окончания мы узнали о реакции на наше обращение председателя райисполкома Станислава Константиновича Чернушевича. Суть его комментария сводилась к тому, что в районе завелись "писаки", что задолженность по выплате зарплаты труженикам сельского хозяйства гораздо больше, чем учителям. Учителей, выступивших на собрании трудового коллектива и поддержавших обращение, уважаемый Станислав Константинович сравнил с "шавками". Вот так! Ни больше ни меньше.

Кстати, наш уважаемый руководитель на встречах с педагогическими работниками района обычно не преминет упомянуть, что в душе он всегда учитель, потому как более десяти лет работал директором школы. Так сказать, понимает нас. Но мы не понимаем: неужели же педагоги без зарплаты должны радоваться, что кому-то — колхозникам, например, — еще хуже?

**С уважением**

**учителя СШ №2 курортного поселка Нарочь Мядельского района**
**Л.В.КРАВЧОНОК, А.Я.АСТРЕЙКО, А.В.ШАРАЙ, С.Л.РАКЕЦКИЙ, В.В.КАРТУЛЬ, Ж.А.ГОЛЯК, И.А.СЫСОЕНКО, В.А.БУРЫЕД, В.В.АПАНАСЕНОК, Н.П.КРАСОВСКИЙ, Р.Р.КОВАЛЕВА, З.Н.ГОЛОМЫЗДО, Т.В.ПРОКОП, Н.И.ПЕШКО, Е.А.ТАЛАЙКО, Г.С.АМЕЛЬЯНОВИЧ, Л.Г.СОЛОВЕЙ, И.К.ЧЕРНЯВСКАЯ, В.В.АГРЕЙЦОВИЧ, Е.В.ЧЕРНЯВСКАЯ, Г.Н.ГИРИНА, Л.Н.ЧЕРНЯВСКАЯ, Т.А.ДЕВЯТНИКОВА, Л.Л.ЧЕРНЯВСКАЯ, Т.Ф.КУРОЧКА, А.С.КАРТУЛЬ, Н.Э.РОМЕЙКО, И.В.КОРЖ, Е.В.КИСЕЛЬ, С.А.БУРКО, М.П.АВГУСТИНОВИЧ, Ю.И.ПРОЦКО (завхоз), О.З.ТЕРПЕНТО (рабочий), Г.В.ПАРАСЕНКО, В.А.ПИСАРЧИК, М.Ю.ВИРСИС, С.И.БОБРОВКО, А.Ф.ЛЯХОВИЧ, И.Л.КРАСОВСКАЯ, И.Б.МАСЛОВСКАЯ, А.М.СМОЛЕНСКАЯ, А.В.КОМОЛОВ, А.И.КАРПЕЕВ, Е.П.ЗЕНЬКО, Г.С.ЖЕЛУБОВСКАЯ**
**(всего сорок пять подписей).**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## Слёзы ветэрана

*Калі ветэран вайны і працы мінчанін Франц Казлоўскі прачытаў прэзідэнцкі Указ №579 "Аб падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 60-й гадавіны вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне", у якім органам дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму прадпісана прыняць меры па сацыяльнай абароне ветэранаў, з вачэй былога воіна пакаціліся слёзы. "Не веру, не веру, — шапталі вусны старога. — Колькі ўжо падобных дакументаў прымалася, а толку? І за што я толькі ваяваў?.."*

*Франц Міхайлавіч, аўтар некалькіх кніг для дзяцей і дарослых, распавёў сваю гісторыю. Вось яго расказ.*

...Старасць, вядома ж, не радасць: здароўе не тое, што ў маладога. У 1999 годзе трапіў я ў рэспубліканскі шпіталь інвалідаў Айчыннай вайны. Урач Сяргей Міхайлавіч (прозвішча ён не назваў) супакоіў: маўляў, нічога асабліва страшнага, будзем лячыць таблеткамі. Я і лячыўся так пасля шпіталя, пакуль боль не стаў нясцерпным. У Бальніцы хуткай дапамогі мне зрабілі экстраную аперацыю і парэкамендавалі праз некаторы час, крыху набраўшыся сіл, адважыцца на другі этап аперацыі. І я праз нейкі час звярнуўся ва ўжо знаёмы мне шпіталь для інвалідаў вайны, да таго ж Сяргея Міхайлавіча. У прыёме той мне не адмовіў, пазнаёміўся з дадзенымі аналізаў і запэўніў: "Праз колькі дзён прыступім да справы". Але на трэці дзень знаходжання ў шпіталі нечакана для сябе я ўбачыў ў палаце цэлы натоўп сваіх родзічаў, якія ў роспачы ледзь не галасілі: "Сяргей Міхайлавіч адмаўляецца рабіць аперацыю, гаворыць: забірайце яго дамоў". І мяне забралі...

Пачуваюся зараз яшчэ горш — пэўна, ад крыўды на такую абыякавасць. Не ўтрываў, паскардзіўся ў Міністэрства аховы здароўя, Адміністрацыю прэзідэнта. Фактычна адусюль атрымаў адпіскі. Мне, 79-гадоваму чалавеку, патрэбна рэальная дапамога, а не словы, як бы хараша яны ні былі складзены. Я зусім не магу хадзіць. Жонцы 78-ы, таксама цяжка хворая. Так вось і ляжу з адкрытай ранай, лічыце, амаль два гады.

Тады, у час вайны, іншы раз мільгацела думка: не дай Бог трапіць да ворага ў палон, расстраляюць ці згнояць у канцлагеры. А атрымалася так, што напрыканцы жыцця давялося гніць жыўцом у сваёй роднай краіне...

**Анатоль ЧАЧОТКА.**

# Не свои, так чужие

*Гони олигарха в дверь — он влезет в окно*

Продажу Беларусью своего пакета акций нефтяной компании "Славнефть", который приобрел "Славнефтебанк", можно считать знаком начала участия российского капитала в приватизации ее государственного имущества.

Напомним, что за покупателем белорусского пакета стоит "Славнефтебанк", действовавший по заявке российской компании "Сибнефть", 80 процентов акций которой принадлежит губернатору Чукотки Роману Абрамовичу.



*Роман Абрамович — он купил нашу "Славнефть".*

А еще "начальник Чукотки" владеет 50 процентами акций "Русского алюминия" и 26 — компании "Аэрофлот". Его совокупный капитал оценивается в 3 млрд. долларов, что сопоставимо с госбюджетом Беларуси, и это вторая по толщине мошна в России. А еще г-н Абрамович считается главным кассиром "семьи" Бориса Ельцина. По совокупности таких показателей, как богатство, связи с первыми лицами истэблишмента, политическим и иным качествам, Анатолий Чубайс считает его, с высокой долей уверенности, самым влиятельным политиком из новых магнатов в России. Если же г-н Абрамович одержит верх в борьбе с российским правительством за право владеть каналом ТВС, то его олигархический статус станет абсолютным.

Белорусы свои нефтяные акции продали за 207 миллионов долларов, хотя просили 250, а покупатель первоначально предлагал 210 миллионов. Таким образом, запросы продавца остались совсем даже неудовлетворенными. Примечательно, что сделка совершена буквально через несколько дней после выступления А. Лукашенко в Белорусском государственном экономическом университете, в котором он предупредил свое правительство о недопустимости продажи белорусского пакета "Славнефти" за бесценок. Поэтому возникает впечатление, что белорусов их российские братья попросту "надули".

Но если и так, то сделано это по всем законам жесткой конкуренции, для которой нет ни свата, ни брата. Дело в том, что 10 процентов акций "Славнефти" белорусское правительство получило в обмен на треть стоимости Мозырского нефтеперерабатывающего завода, которая стала собственностью российской стороны. Такое решение было принято еще при Кебиче, когда россияне резко сократили поставки нефти в Беларусь, ввиду чего нашим заводам грозила если не остановка, то достаточно серьезная недогрузка производственных мощностей. А сама НГК "Славнефть" была создана уже при Лукашенко, в 1997 году.

Таким образом, российский олигарх, несмотря на сопротивление Лукашенко, уже получил изрядный кусок белорусской собственности. Однако самое обидное в том, что живых, что называется, денег белорусы практически не получат, поскольку примерно такую же сумму они задолжали за поставляемый в страну газ. А ведь жизнь кончается не завтра. И питается она, к сожалению, из нефтегазовой трубы, и преимущественно в долг. Поэтому придется и дальше продавать заводы и фабрики и все тем же ненавистным московским нуворишам. А что делать, если своих собственных капиталистов или придушили еще в юношеском возрасте, или "выдавили" из страны как врагов народа.

Поэтому многое, что происходит в нашей экономике сейчас, никак не зависит от того, чего хочет народ и "его президент". И с каждым годом их возможности принимать самостоятельные решения сокращаются, как шагреневая кожа. В частности, белорусский пакет акций "Славнефти" продавали на бесконкурсной основе, поскольку все другие компании, кроме "Сибнефти", от участия в сделке уклонились. А времени оставалось в обрез, поскольку предстоящая вскоре продажа российского государственного пакета акций (3/4 стоимости) могла снизить стоимость белорусского пакета до 100—120 млн. долларов.

18 декабря сделка состоялась, и, по оценке аналитиков, остаток акций "Славнефти" перешел в собственность все того же Абрамовича.

Могут сказать: а нам какое дело до того, как в России делится собственность и какие олигархи ею распоряжаются? Но дело в том, что отныне Абрамович становится виднейшим фигурантом белорусской экономики, которого на ковер не вызовешь, без суда не арестуешь, неправедным судом не осудишь, декретом собственность не отберешь. И в то же время именно Абрамович и те, кто за ним стоит, будут определять условия поставки нефти в Беларусь и реализации здесь нефтепродуктов. В этой связи обратим внимание читателя на то, что "Славнефть" имеет в нашей стране густую сеть АЗС, к услугам которых ежедневно обращаются десятки тысяч человек.

Поскольку всякий делец, а г-н Абрамович делец выдающийся, старается преумножить свою собственность, будет расти и белорусское отделение "Славнефти". Следовательно, будет расти и политический вес, и влияние "семьи" на белорусские обстоятельства. Подчеркнем, что, по версии российских аналитиков, постельцинская "семья" группируется вокруг премьера Михаила Касьянова, которому, как утверждают, не чужды президентские амбиции. И если это так, то политический процесс в Беларуси станет предметом мониторинга весьма заинтересованных и, в отличие от современных думских "радетелей за Беларусь", ответственных и стремящихся к большей власти и к большему богатству лиц.

Данное обстоятельство пока не учитывается белорусской оппозицией. Хотя вовсе не обязательно, что они сделают ставку именно на оппозицию. Ведь следуя сложившейся логике событий, глубокое проникновение в экономику и политику Беларуси им гарантировано и при Лукашенко. Для этого следует только методично и настойчиво дожимать нашего "последнего героя", обещая ему что-то совершенно немыслимое в качестве приза, одновременно указывая на реальную угрозу полного для него фиаско.

Вероятность такого развития событий усиливается политическим разбродом в среде самой оппозиции, которая до сих пор не консолидировалась и не определила своего Коштуницу. А ведь прагматику (других в крупном бизнесе не бывает) обычно удобнее работать с человеком, позиции которого ясны, ввиду чего известны и способы воздействия на него.

А г-н Абрамович уже получил от Лукашенко довольно увесистый и, главное, лакомый кусок. И, вполне вероятно, получит больше. А что в качестве отплаты? Финансирование еще одной "элегантной" политической победы?

Вполне может быть.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

Народная Воля 10 СТУДЗЕНЯ 2003 г.

У СОСЕДЕЙ

# Так кто же победил в Литве?

*Итоги подсчета голосов после второго тура президентских выборов, который прошел в минувшее воскресенье в Литве, оказались действительно сенсацией: победил "энергичный борец с коррупцией" 46-летний Роландас Паксас. Валдас Адамкус, объявленный фаворитом на основании предшествовавших выборам опросов общественного мнения, в феврале покидает пост президента.*

Для многих явилось сюрпризом, что литовцы не поддержали на выборах человека, во время правления которого Литва вступила в НАТО и Европейский Союз. Как оказалось, рецепты европейских политиков вызвали у литовцев больше подозрений, чем желания следовать им.

Во вчерашнем номере "Народной воли" журналист Владимир Глод изложил свое видение президентских выборов в Литве. Я также провел у соседей не один день, наблюдая за избирательной конкуренцией. Вот мое мнение.

Паксас построил свою избирательную кампанию очень агрессивно. "Я правильно понимаю проблемы нашей страны", — так объяснил причину своей победы на выборах Паксас. Как отмечают обозреватели, он активно играл на ностальгии некоторой части народа по сильной руке, "порядку" и "более тесным отношениям с Россией". Литва, в которой проживает много русских и которая пока не имеет головокружительных успехов в экономике, больше поверила человеку, обещающему разобраться с коррупцией и с людьми, которые "пытаются продать Литву американцам" (имеется в виду гремевшая в свое время сделка правительства Литвы по продаже нефтеконцерна "Mazekiu Nafta" американской корпорации Williams. — **А.С.**). Многие в Литве уже назвали вновь избранного президента "литовским Лукашенко", — во всяком случае, в методах ведения избирательной кампании они — близнецы-братья...



*Роландас Паксас с супругой.*

**Фото IREX/ProMedia.**

Итоги выборов в Литве, как считает западная пресса, "поучительны и в преддверии расширения Европейского Союза: те, кто считает, что население в странах-кандидатах на референдумах обязательно скажет "Да", должны услышать тревожный звонок из Вильнюса". Швейцарская газета "Базлер Цайтунг" пишет так:

*"Неожиданное поражение на выборах литовского президента Адамкуса должно стать тревожным сигналом для тех, кто уверен, что большинство населения в государствах-кандидатах считает курс на интеграцию в единую Европу Божьим даром. И не потому, что победитель на выборах в Литве мог бы оказаться противником вступления страны в ЕС и НАТО... Итоги выборов должны заставить европейских энтузиастов задуматься по другой причине. Они заставляют задуматься о непредсказуемости ситуации и прислушаться к голосам протеста, которые вновь и вновь раздаются в странах, вставших на путь демократических реформ".*

Накануне выборов в Литве активно муссировались слухи о том, что "самый богатый из кандидатов" Паксас активно использует в своей избирательной кампании российский капитал. Даже в кулуарах литовского парламента мне неоднократно доводилось слышать разговоры о том, что Кремль очень активно в последнее время занимается Литвой и якобы не прочь восстановить контроль над ней. И, видимо, Паксас в этих планах играет определенную роль...

Пока прозвучали осторожные заявления нового президента Литвы о том, что его страна будет более активно использовать необъятный российский рынок. Конечно, Литва не Беларусь и вряд ли может последовать резкий поворот внешнеполитического вектора нашей страны-соседки в сторону России, но вот вопрос: как Паксас думает рассчитываться с кредиторами?

В этой связи у меня возникают сомнения по поводу сравнений журналистами нового президента Литвы с "прогрессивным" Путиным. Мало энтузиазма у меня, честно говоря, и по поводу планов г-на Паксаса "энергично разобраться с коррупцией", и по факту его молодости. Молодость, как показывает белорусский опыт, еще не гарантия мудрого и взвешенного курса...

**Александр СИЛИЧ.**

ПОГЛЯД

# Балаганчык па-новабеларуску

Сорак два гады хаджу ў Беларускі Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. (Зняцце слова БЕЛАРУСКІ з назвы тэатра не проста не разумею — не прымаю. У сталіцы Беларусі Рускі тэатр ёсць, а Беларускага няма. Усемагчымая эквілібрыстычная слоўная труха пра значэнне слова НАЦЫЯНАЛЬНЫ — гэта супрацьпраўнае апраўданне дальнабачна зробленага кімсьці на пагаршэнне беларускасці і ў гэтым куточку.)

Асобныя спектаклі Беларускага Акадэмічнага Купалаўскага гляджу паўторна, некаторыя, кшталту "Паўлінка", "Ліса і вінаград", "Вітаўт", — яшчэ болей. Паасобку і з сямейнікамі.

Горшага пачуцця не было на душы ні разу, як сталася пасля прагляду славутых і гарапашных "Тутэйшых", якія "адноўлены" ў 2002 годзе.

Рускі рэжысёр і проста разумны рускі чалавек М.А.Папоў паставіў "Тутэйшых" неўзабаве пасля рэвалюцыі. Вось як ён сам выказаўся пра гэта: "Я ж рэжысёр, які не мае нічога агульнага з беларускім нацыяналізмам, даў плоць і кроў персанажам Янкі Купалы... даў у сваёй пастаноўцы такую дзейсную сцэнічную карціну, якая іграла на руку нацыяналістам..." (Янка Купала. Збор твораў у дзевяці тамах. Т.7, 2001, стар. 391).

Цяпер другі прыезджы рэжысёр Мікалай Пінігін прадставіў гледачам дзве пастаноўкі "Тутэйшых" — пазалеташнія і сёлетнія. Дзве абсалютна розныя пастаноўкі. Старая — сапраўды **нацыянальная**, новая — павярхоўная, хаця такая ж відовішчная.

Выдатныя акцёры таленавіта выконваюць ролі. Цудоўна гучыць музыка Уладзіміра Кур'яна. Дэкарацыі кідкія, адчуваецца ўмельства Барыса Герлавана.

Выклікаюць пярэчанне, рэзкае непрыманне наступныя "знаходкі" пастаноўшчыкаў і арганізатараў новаўвядзення. Купалаўскія *смяшлівыя* сцэны звялі ў гратэскную пустату. Сур'ёзную п'есу з двайным, трайным падтэкстам ператварылі ў аднаянейны базарны балаганчык.

Акцёры прытанцоўваюць да месца і не да месца. Звычайную людскую хаду пераўтварылі ў крыўлянне. Нехта забыў, што Акадэмічны — не цырк, не аперэта і не рэстаранныя падмосткі.

Ганюлю Зношчык (Зношчыху) забіралі на інтымны уік-энд тройчы — паляк, рускі, бальшавік. Жанчына, па задуме аўтара і сваім месцы ў п'есе, нясе на сабе функцыю шчырай добрай маці, з'яўляецца сімвалам самой Беларусі. На ўсялюднае выстаўлянне паказваецца, як яе па чарзе... тры каланізатары. Паказана ўлабавую, адкрыта, без рэтушы. Без сораму перад дзятвой, якая запоўніла залу. З ухмылкамі рэжысёр тройчы зачыняе яе і чарговага гвалтаўніка ў асобным пакойчыку.

Згвалтаваная жанчына ў наступнай сцэне паводзіцца як ні ў чым не бывала. Працягвайце, мужчыны, тое ж?

Ах, якая тонкасць, які ўдалы рэжысёрскі ход, якая рэалістычнасць! Ад такога рэалізму мне асабіста ванітаваць і плявацца хочацца.

У леташніх "Тутэйшых" не было сцэны, дзе галоўны герой, напалову адмоўны, напалову жалю варты прыстасаванчык, але ўсё ж такі герой, зноў-такі сімвал беларуса, выстаўляў задніцу, перагінаўся спінаю перад адмоўным калегам-героем... на доўгія трыццаць секунд. Гарапашны беларус замёр у паставе ракам на доўгія-доўгія восем уздыхаў.

На што намёк, кіраўнікі Акадэмічнага? Беларус чакае, пакуль яго скарыстаюць "блакітныя"?

Расейцы і палякі, героі спектакля, гавораць хутка, практычна нічога не разабраць, хаця я сядзеў у чацвёртым радзе.

Фінал іначай ацаніць не магу, як прыніжэнне натуральнага і рэальнага. Гэта ж трэба прыдумаць супрацьнатуральнае, агіднае... У фінале амаль усіх герояў па чарзе расстрэльваюць. Застаецца жыць забойца — дурны бальшавік-рэвалюцыянер — і ягоныя памагатыя.

Зменены канчатак п'есы фаталіста і прарока Купалы, думаецца, невыпадкова. У набітай пад завязку зале (білет даставаў з цяжкасцю) на 80 працэнтаў былі школьнікі. Апладзіравалі дзеткі бела-чырвона-беламу сцягу ў канцы п'есы, а не рэжысёрскім "знаходкам". Дзеткі не разумелі, што фактычна п'еса не проста зменена — падменена. У Купалы жывуць усе героі, тут засталіся жыць толькі адмоўныя.

Дарослыя людзі забылі: у жыцці ёсць усё, але выжывае і перамагае станоўчае, дадатнае, пераможнае.

Мне, беларусу, горка было бачыць антыбеларускія сцэны ў праслаўленым тэатры. Таленты акцёраў Віктара Манаева, Марыі Захарэвіч, Аляксандра Лабуша, Генадзя Аўсяннікава, Зоі Белахвосцік, Алены Сідаравай, Аляксандра Падабеда, Алега Гарбуза і іншых, лічу, пайшлі ў пясок. На адвярджэнне беларуса ад беларускасці, на адрачэнне думкі людзей наогул ад тэатра.

Крытык Пятро Васючэнка яшчэ зусім нядаўна адзначыў: "І зноў мы сустракаемся з феноменам "дзіўнай напаўзабароны" твора" (Васючэнка П. Драматычная спадчына Янкі Купалы. Мн., 1994, стар.145). У бесцэнзурны цяперашні час, як бачым, сітуацыя пасвабаднела. П'есу пазалетась паказвалі. Потым знялі быццам з-за састарэлых дэкарацый.

Восенню 2002 года "Тутэйшых" зноў паставілі. Зрабілі вельмі хітранька. Ці сам рэжысёр М.Пінігін даўмеўся перакаўмлычыць сэнс п'есы, пазбавіць яе шматзначнасці пад танцавальным крыўляннем, ці яму збоку "ненавязліва" падказалі антыбеларускія ходы? Цяперашняя пастаноўка — гэта ўдар. Удар мне, беларусу, у самае сэрца. Ды і самому тэатральнаму калектыву.

У цяперашнім варыянце пастаноўкі, у выхалошчванні і замаскіраванні асноўнага, увядзенні непатрэбных сцэн, знішчэнні станоўчых герояў не пахне ні Купалам, ні беларускасцю.

Прафанацыяй пахне.

**Валер САНЬКО, пісьменнік.**

ДАЙДЖЕСТ

## Верховный суд Украины вступился за Павла Лазаренко



Верховный суд Украины отменил решение украинского парламента о лишении депутатских полномочий бывшего премьер-министра Украины Павла Лазаренко. По информации из Верховного суда Украины, Судебная палата удовлетворила жалобу представителей Павла Лазаренко на решения Печерского районного суда Киева и Апелляционного суда Киева, которые в 2002 году закрыли производство по иску экс-премьера о незаконности досрочного лишения его полномочий народного депутата. Верховный суд Украины признал незаконными эти судебные решения относительно бывшего премьер-министра и направил дело на новое рассмотрение в суд первой инстанции.

В феврале 2002 года Верховная рада Украины дала согласие на прекращение полномочий народного депутата Павла Лазаренко в связи с вступлением в силу обвинительного приговора против него. В настоящее время бывший премьер-министр Украины Павел Лазаренко находится под следствием в одной из американских тюрем. Ему инкриминируется "отмывание денег" в банках США и Швейцарии.

## Британским мусульманам предложено пить «Мекка-колу»

Французские производители прохладительных напитков выпускают на британский рынок новую марку колы — "Мекка-колу", предназначенную для мусульман, живущих в Великобритании. Как заявил французский бизнесмен арабского происхождения Тафик Матлути, идея создания "мусульманской кока-колы" родилась на волне бойкота мусульманами американских товаров и призвана отчасти не только приносить прибыль производителям Mecca-Cola, но и помогать финансировать организации помощи палестинским беженцам.

По словам Матлути, спрос на его напиток в Британии намного превысит аналогичный показатель во Франции, где мусульманская кола продается уже два месяца, по той причине, что антиамериканские настроения британских мусульман гораздо сильнее, чем у их французских единоверцев. Для презентации на британском рынке бизнесмен приготовил партию в 16 млн бутылок Mecca-Cola. Продвижение новой колы на британском рынке будет сопровождаться рекламной кампанией со слоганами "Не пей глупо, пей с верой!".

## Пакистан вооружился ракетой, способной нести ядерный заряд

Пакистанская армия сообщила о постановке на вооружение баллистической ракеты средней дальности, способной нести ядерный заряд. Президент Пакистана Первез Мушарраф принял участие в торжественной церемонии передачи ракеты военным. В Пакистане были созданы две ракеты средней дальности Ghauri 1 с дальностью стрельбы 1,5 тыс. километров и Ghauri 2 с дальностью 2,3 тыс. км. О том, какая ракета поступила на вооружение, армии не сообщается.

## Руководство охраны главной ядерной лаборатории США обвиняется в мошенничестве

Представители руководства Национальной ядерной лаборатории США в Лос-Аламосе объявили о приостановлении полномочий двух ведущих функционеров службы безопасности этого учреждения. Глава службы безопасности Стэн Басбум и его заместитель Джин Такер обвиняются в ряде правонарушений. Предполагается, что они причастны к случаям нецелевого использования правительственных кредитных карт, пропаже высокотехнологичного оборудования и к махинациям с использованием кадрового состава. В связи с выявленными фактами оба функционера отстранены от служебной деятельности для дальнейшего разбирательства.

## Инспекторы ООН в Ираке недосчитались 6 тысяч бомб с химической начинкой

Инспекторы ООН заявили, что иракский отчет не дает удовлетворительного ответа на несколько вопросов по поводу программ биологического и химического оружия. В частности, согласно некоторым документам, в ходе войны с Ираном в 1980—1988 годах Ирак использовал на 6 тысяч бомб с отравляющими веществами меньше, чем указывает в своем отчете, и у инспекторов ООН возник вопрос, где находятся эти сохранившиеся бомбы. Кроме того, отчет Ирака не проясняет, где находятся запасы биологических агентов, полученных в ходе разработки программы биологического оружия, — споры сибирской язвы и питательные материалы для них.

Глава инспекторов ООН Ханс Бликс и директор МАГАТЭ Мохамед Эль-Барадеи выступят перед Советом безопасности ООН с результатами исследования отчета, предоставленного Ираком. По предположениям аналитиков, в ходе этой встречи Совет безопасности ООН примет решение увеличить присутствие инспекторов ООН в Ираке.

## Демократы предложили восстановить в США всеобщую воинскую повинность

Ветераны корейской войны конгрессмены-демократы Чарльз Рэнджел и Джон Коньерс предложили восстановить в США всеобщую воинскую повинность, отмененную в 1973 году. Разработанный ими законопроект предусматривает обязательный призыв на военную или гражданскую службу для мужчин и женщин в возрасте от 18 до 26 лет, причем студенты колледжей и университетов от призыва не освобождаются. По мнению конгрессменов, в случае принятия соответствующего закона политические лидеры были бы осторожнее в принятии решений, связанных с ситуацией в Ираке, зная, что их дети будут служить в армии. Как заявил Рэнджел, у политиков появилось бы "больше желания работать вместе с международным сообществом по проблеме Ирака".

Демократы также заявили, что американцам следует подумать, должна ли их армия комплектоваться большей частью из людей с низким уровнем дохода и представителей меньшинств.

## На борту разбившегося в Турции самолета находились 80 человек

Самолет авиакомпании Turkish Airlines разбился при посадке в аэропорту города Диярбакир на юго-востоке страны. На борту авиалайнера, выполнявшего рейс из Стамбула в Диярбакир, находились 72 пассажира и 5 членов экипажа, заявили представители властей. Однако местное информационное агентство сообщает, что в числе пассажиров разбившегося самолета также находились трое малолетних детей, которые не были внесены в списки. Министр иностранных дел Турции Абдулкадыр Аксу заявил в интервью турецкому телевидению, что в катастрофе погибли 72 человека. Большинство людей погибли во время пожара, возникшего на борту самолета после падения.

По предварительным данным шесть человек, среди которых один грудной ребенок, выжили, они доставлены в городскую больницу. Причина катастрофы турецкого самолета выясняется. По сообщению местных властей, в районе Диярбакира отмечаются плохие погодные условия: туман и низкая температура воздуха.

*По сообщениям "Рейтер", "Би-Би-Си", РИА "Новости", "The Guardian".*

100 ГАДОЎ ТАМУ

# Народзіны Беларусі

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

*(Працяг. Пачатак у №3 б.г.)*

## Вацлаў Іваноўскі і БРП

Сярод варшаўскіх гімназій канца XIX — пачатку XX ст. праславілася пятая, якая дала нямала дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, вучоных. У 1891 г., калі выйшла Багушэвічава "Дудка беларуская", цывільны генерал, адзін з перадавых памешчыкаў Беларусі, уладальнік маёнтка Лябёдка ў Лідскім павеце пан Леанард Іваноўскі аддаў у гэтую гімназію свайго сына Вацлава.

Іваноўскія паходзілі са старога шляхецкага роду і былі тыповамі панамі-ліцвінамі. Размаўляючы па-польску, гэтыя паны падкрэслівалі, што яны — не палякі, а ліцвіны, спадкаемцы Вялікага княства Літоўскага. І дзяцей сваіх яны выхоўвалі ў гэтым духу.

Ды быў канец XIX ст. Ва ўсёй Еўропе ўжо аформіліся нацыі. У тым ліку і на тэрыторыі былога Вялікага княства. І дзецям паноў-ліцвінаў трэба было прыстаць да нейкага берага: беларускага, літоўскага ці польскага. Сям'я пана Л.Іваноўскага стала ў гэтым сэнсе паказальнаю. У яго былі чатыры сыны: Юры, Вацлаў, Тадэвуш і Станіслаў. Юры (Ежы) і Станіслаў сталі вядомымі польскімі дзеячамі, Тадэвуш праславіўся як літоўскі вучоны Тадас Іванаўскас, а Вацлаў стаў беларусам.

Ніхто не можа вычарпальна адказаць на пытанне, чаму ў сям'і пана Іваноўскага адбыўся такі падзел. Адбыўся — і ўсё.

Беларускі гісторык у Польшчы Юры Туронак, які напісаў пра В.Іваноўскага грунтоўную працу, паведамляе, што ён ужо ў гімназіі лічыў сябе беларусам і што адзін з былых гімназістаў ацэньваў ягоную пазіцыю як крайні беларускі нацыяналізм (слова "нацыяналізм" і тады, і цяпер на Захадзе азначае патрыятызм, любоў да свайго народу).

Атрымаўшы ў 1899 г. годзе атэстат сталасці, В.Іваноўскі стаў студэнтам Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбургу. Гэты інстытут скончыў ягоны бацька, там вучыўся брат Юры. У Піцеры Ю.Іваноўскі ўступіў у Польскую сацыялістычную партыю (ППС). У той час польскі сацыялістычны рух падзяляўся на дзве партыі: Сацыял-дэмакратыю Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ) і ППС. Першая з іх выступала з больш левых пазіцый і адстойвала ідэю інтэрнацыяналізму, якая зводзілася да таго, што не трэба разбураць ані Расійскую, ані Германскую, ані Аўстра-Венгерскую імперыі. Якраз у рамках такіх вялікіх, шматнацыянальных дзяржаўных утварэнняў можна хутчэй здзейсніць міжнародную і нават сусветную рэвалюцыю, пасля якой усе нацыі будуць роўныя і жыць у братнім саюзе.

Атрымлівалася, што СДКПіЛ адмаўляе права нацый на самавызначэнне, абвешчанае Сацыялістычным Інтэрнацыяналам у 1896 г. ППС сыходзіла з таго, што ёсць нацыі, якія маюць свае імкненні, інтарэсы і права на самавызначэнне. Таму яна выступала за незалежнасць Польшчы, стварэнне дэмакратычнай рэспублікі і вызваленне працоўных.

Успрыняўшы ад брата сацыялістычнае вучэнне, В.Іваноўскі не мог уступіць ні ў СДКПіЛ, ні ў ППС. Беларускі патрыёт, ён прыйшоў да пераканання, што ў беларусаў павінна быць свая сацыялістычная арганізацыя. І на пачатку 1902 г. у Пецярбургу была заснавана Беларуская рэвалюцыйная партыя (уласна кажучы, гэта была не партыя, а гуртак, дыскусійны клуб, у які ўваходзілі студэнты з Беларусі).

Калі ў часы Каліноўскага патрыёты-рэвалюцыянеры Літвы і Беларусі ідэйна і арганізацыйна былі звязаныя з польскім вызваленчым рухам, калі беларускія нарадавольцы ядналіся з расійскім рэвалюцыйным рухам, дык БРП ад сваіх папярэднікаў адрознівалася тым, што яна была першаю самастойнаю беларускаю арганізацыяй.

## Беларусы і палякі

Пра тое, што ў беларусаў узнікла свая палітычная арганізацыя, у ППС даведаліся хутка, і ўжо ў чэрвені 1902 г. з'езд гэтае партыі прыняў спецыяльную беларускую рэзалюцыю. Польскія сацыялісты былі ў складаным становішчы. Яны выказвалі сімпатыю да беларускіх сацыялістаў і, жадаючы, каб яны імкнуліся да незалежнасці, разам з тым хацелі, каб БРП імкнулася да федэрацыі з ППС. Палякі пакідалі за сабою права ўздзейнічаць на беларускае насельніцтва і разам з тым нібыта не хацелі ўступаць у супярэчнасць з інтарэсамі беларускай сацыялістычнай арганізацыі.

Такая дваістая пазіцыя ППС тлумачыцца проста. ППС разумела, што калі БРП будзе змагацца за самавызначэнне беларускага народа і за надзяленне сялян зямлёю, дык будзе нанесены ўдар якраз па польскіх элементах у Беларусі, бо зямля ў нашай краіне належала ў асноўным апалячаным і польскім панам. ППС разумела таксама, што, страціўшы эканамічныя пазіцыі, палякі страцяць у Беларусі і пазіцыі палітычныя, культурныя. І таму беларускі рух не адпавядаў інтарэсам польскіх сацыялістаў, многія з якіх марылі пра аднаўленне Рэчы Паспалітай калі не ў межах 1772 г., дык з уключэннем у яе Віленскае, Гарадзенскае ды Менскае губерняў. З другога боку, ППС не магла не вітаць з'яўлення БРП, бо мэтаю такое арганізацыі, як і польскае, як і ўсякае іншае сацыялістычнае партыі, было звяржэнне царызму — галоўнага ворага волі народаў.

Першай практычнай рэакцыяй польскіх сацыялістаў на ўзнікненне БРП было стварэнне з мясцовых арганізацый ППС у верасні 1902 г. так званае ППС на Літве. Цэнтр яе знаходзіўся ў Горадні. Галоўная задача ППС на Літве заключалася ў тым, каб належным чынам уздзейнічаць на насельніцтва заходняе часткі Беларусі і Літвы. У канцы 1902-га і на пачатку 1903 г. гэтая арганізацыя выпусціла на беларускай мове тры брашуры. У выданнях галоўнай прычынай сялянскіх бедаў абвяшчаўся царызм. Пра паноў аўтары брашур маўчалі. Іх не хвалявала фактычная забарона беларускае мовы, затое яны наракалі, што царызм не дазваляе вучыць па-польску... беларускіх дзяцей.

ППС нядоўга гуляла ў інтэрнацыяналізм. З'яўленне брашур у роднай мове будзіла не толькі сацыяльную актыўнасць, але і нацыянальную свядомасць беларускіх сялян. Таму ў чэрвені 1903 г. было вырашана спыніць выданне брашур па-беларуску.

## Менск. Браты Луцкевічы

Другі цэнтр беларускае думкі ўзнік у канцы XIX ст. у Менску і звязаны з імёнамі Івана і Антона Луцкевічаў.

Браты Луцкевічы былі сынамі беззямельнага шляхціца, былога штабс-капітана расійскае арміі Яна Баляслава Луцкевіча. У пана Яна Баляслава, акрамя Івана і Антона, былі яшчэ тры дачкі і сын. Каб утрымліваць сям'ю, пан Ян Баляслаў служыў на Лібава-Роменскай чыгунцы спачатку ў Шаўлях (там Іван і Антон нарадзіліся), а потым у Лібаве (вучыліся ў гімназіі). У 1895 г. пан Ян Баляслаў памёр, а з 1897 г. Іван і Антон жылі ў Менску і хадзілі ў класічную мужчынскую гімназію. Жылі Луцкевічы ў сваім доме № 27 на вул. Хрышчэнскай (пасля рэвалюцыі — Кастрычніцкая, пасля вайны — Інтэрнацыянальная). У міжваенны час побач з домам Луцкевічаў стаяў да вайны дом Купалы. Цяпер там Купалаўскі парк.

Сям'я Луцкевічаў, як даведваемся мы з напісанага Антонам, "жыла ўспамінамі аб напалеонаўскім паходзе — паўстаннях 1831—1863 гадоў", а таму не дзіва, што яшчэ ў Лібаве браты Луцкевічы наведвалі рэвалюцыйны гурток літоўскіх гімназістаў. Тое, што яны чулі аб правах народаў, наводзіла іх на роздум. У думках яны вярталіся ў бацькоўскі край, у цяперашні Маладзечанскі раён, дзе звычайна бавілі летні час.

Менавіта ў Лібаве ў Івана "родзіцца думка, што і яго народ — народ тых мужыкоў у шэрых світках, з якімі ён сустракаўся толькі калі-нікалі ўлетку на вёсцы... — мае такое ж права да лепшага эканамічнага быту, да пашаны яго мовы, як і літвіны і латышы". А ўслед за братам да такое думкі прыходзіць і Антон.

Што той народ, які ходзіць у шэрых світках, — іхні народ, у братоў няма сумнення. Яны чыталі кнігі, і "добрае знаёмства з мінуўшчынай Бацькаўшчыны гаварыла... што народ беларускі не заўсёды жыў так, як цяпер, што меў слаўную прошласць і нямала ўлажыў працы сваёй у культурную скарбніцу".

У Менску браты Луцкевічы сустрэліся з дзвюма мясцовымі знакамітасцямі. Гэта — археолаг Генрык Татур і мастак, паэт і драматург Казімір Кастравіцкі, нашчадак старога баярскага роду, сын ссыльнага паўстанца, які апранаўся па-сялянску і ўзяў сабе псеўданім на мужыцкі лад — Карусь Каганец. Абодва яны паўплывалі на Івана і Антона.

Агульная атмасфера таго часу змушала найбольш дзейныя элементы шукаць арганізацыйныя формы працы. Паступова ў Менску пад кіраўніцтвам І.Луцкевіча склаўся гурток гімназістаў. Адною з галоўных мэтаў гуртка было вывучэнне Беларусі і беларусаў. У гуртку прыйшлі да думкі пра тое, што эмансіпацыя беларуса як чалавека і грамадзяніна непарыўна звязаная з эмансіпацыяй беларускае нацыі. Гэтая думка легла ў аснову ўсяго беларускага руху, піша А.Луцкевіч.

У 1902 г. браты Луцкевічы атрымалі атэстаты сталасці і паехалі вучыцца ў Санкт-Пецярбургскі імператарскі ўніверсітэт: Іван на юрыдычны факультэт, Антон — на фізіка-матэматычны. Акрамя таго, Іван вырашыў запісацца ў Археалагічны інстытут.

## Сустрэча ў Пецярбургу

Дакладна вядома, дзе пазнаёміліся браты Луцкевічы з Вацлавам Іваноўскім. Гэта адбылося ўвосень 1902 г. у Піцеры, у каталіцкай студэнцкай сталоўцы, што месцілася ў доме № 20 на Забалканскім праспекце. (Трэба адзначыць, што праваслаўныя ("рускія") студэнты мелі свае зямляцтвы і да беларускасці не асабліва гарнуліся. Яны прыйдуць у беларускі рух на хвалі рэвалюцыі 1905 г.)

## Спроба выдаць газету

Ёсць усе падставы лічыць В.Іваноўскага першым беларускім выдаўцом XX ст. Асабліва неабходна падкрэсліць, што распачатая 100 гадоў таму беларуская выдавецкая справа ўжо ні на адзін год не прыпынялася.

Выдавецкая дзейнасць В.Іваноўскага пачалася з таго, што ён купіў гектограф, а першым яго выданнем быў зварот БРП "Да інтэлігенцыі", надрукаваны ўвосень 1902 г. Пасля гэтага было вырашана выдаць партыйную газету.

У выданні газеты ўдзельнічалі сам Іваноўскі, ягоны брат Тадэвуш, Лявон Малецкі, сябар ППС Рамуальд Мілер, сусед Іваноўскага па маёнтку, пецярбургскі гімназіст Вінцэнт Валейка, ягоныя браты Антон і Станіслаў, Іван Луцкевіч, а таксама зямлячка Іваноўскіх Алаіза Пашкевіч, якая стане слыннаю паэткаю і сацыялістычнаю дзячкаю пад псеўданімам Цётка.

Газету вырашылі назваць "Свабода". (Адзначым, што "Свабода", якая выходзіла з 1990 г. і была зачынена лукашэнкаўскім рэжымам у 1997 г., была названа ў гонар тае "Свабоды".) Нумар — восем старонак канцылярскага фармату — быў падрыхтаваны ў Піцеры. Зробленыя там матрыцы Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія ў час калядных вакацый 1902 г. прывезлі ў бацькоўскі маёнтак Лябёдку. І тут яны з дапамогаю братоў Валейкаў аддрукавалі 200 паасобнікаў "Свабоды". Паколькі газета выйшла ў апошнія дні 1902 г., датавалі яе 1903-м годам.

У газеце былі змешчаны два артыкулы: агульнапалітычны і прысвечаны адрозненням беларускага народа ад суседніх. Быў надрукаваны таксама верш Уладзіслава Сыракомлі "Добрыя весці", напісаны падчас рэвалюцыі 1848 г. Паколькі ў тым творы быў радок "Мужык з панамі стаіць за панбраце", то яго памянялі на сацыялістычны лад: "Мужык з рабочым стаіць за панбраце". Былі перайначаныя і іншыя радкі. "Свабода" стала тою газетаю, у якой дэбютавала Цётка: у газеце друкаваўся яе верш "Мужыцкая доля".

Лёс выдання нешчаслівы: увесь тыраж яго быў знішчаны. Найпраўдзівейшая тая версія, што знішчыць "Свабоду" загадаў сваім слугам пан Леанард Іваноўскі, якому яна трапіла на вочы (сыны не надта хаваліся ад бацькі). Адзін паасобнік газеты Вацлаў паспеў адправіць у Варшаву — брату Юрыю. Але здарылася так, што ў Ю.Іваноўскага паліцыя наладзіла ператрус, той адзіны экземпляр "Свабоды" арыштавалі, а яго ўладальніка на 4 гады выслалі ў Расію.

Звесткі пра змест, тыраж, спосаб і месца друкавання газеты мы маем толькі з успамінаў. Спатрэбіцца яшчэ амаль 4 гады, каб быў наладжаны рэгулярны выпуск беларускай газеты. Гэта зробяць браты Луцкевічы, але не будзем забываць і пра спробу В.Іваноўскага.

## Аптымістычныя рознагалоссі

Я ўжо згадваў зварот БРП "Да інтэлігенцыі". Гэтую праграму першапачатковай дзейнасці партыі склалі Л. Малецкі і В. Іваноўскі. У звароце былі дзве галоўныя тэмы: дайце народу асвету на роднай мове, дайце народу веды пра яго гісторыю. Адсюль вынікалі практычныя задачы: ствараць гурткі дзеля вывучэння мовы і складання граматыкі, заняткаў краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай; перакладаць творы з іншых літаратур — найперш з расійскай і польскай; збіраць сродкі на выданне кніг і брашур; арганізаваць распаўсюджанне гэтых кніг і брашур і гандаль імі.

Чалавек практычны (гэтую яго якасць адзначаў і А. Луцкевіч), Іваноўскі лічыў, што трэба пачынаць з малога: з асветы, з прапаганды, каб потым перайсці да агітацыі. Гэта класічная схема развіцця класічнай сацыял-дэмакратыі.

Браты Луцкевічы — і найперш Іван — з гэтаю праграмаю не згаджаліся. Яны схіляліся да бунтарскай народніцкай практыкі. У Піцеры яны завязалі кантакты з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі. Сувязь ажыццяўлялася праз Аляксандру Ізмайловіч і яе сястру Кацярыну, генеральскіх дачок, якія праславяцца як тэрарысткі.

Паводле А.Луцкевіча, у маладым беларускім руху адразу адбыўся падзел на рэвалюцыйную і культурніцкую плыні. З вясны 1903 г. І.Луцкевіч пачне ствараць новую партыю — Беларускую рэвалюцыйную грамаду, а В.Іваноўскі стане ля вытокаў "Круга беларускае народнае прасветы і культуры". Але мы гэтыя рознагалоссі не драматызуем, бо яны будуць пераадолены. Пра самі ж гэтыя арганізацыі будзе напісана ў іх сотую гадавіну.

*(Працяг будзе.)*

